


* ✲ *

*Жаўцеюць на сценах партрэты у рамках,*
*Сыны на матуль пазіраюць ласкава.*
*А тым не заснуць аж да самага ранку,*
*Рукам сваім справы шукаюць, шукаюць.*
*Засніце, матулі, забудзьце на клопат,*
*І ў сне зарыпяць ціха дзверы ў сенцах...*
*Сыны, што ляжаць у палях і акопах,*
*Прыйшлі размініраваць боль вашых сэрцаў.*

**Сяргей Законнікаў**

# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 41 (1024) ГОД XX 12 КАСТРЫЧНІКА 1975 г. ЦАНА 60 гр.







### ЧЫТАЛЬНІЦКІ КОНКУРС

22 верасня адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Абмеркаваў ён дзейнасць БГКТ за мінулы культурна-асветны год і зацвердзіў правілы конкурсаў на 1976 год. Аб іх напішам шырэй у іншых нумарах, сёння аднак звяртаем увагу на цікавы чытальніцкі конкурс „Вайна ў беларускай літаратуры“, які неўзабаве аб'явіць ГП БГКТ супольна з Ваяводскай бібліятэкай.

Каб дапамагчы нашым чытачам узяць актыўны ўдзел у конкурсе, у гэтым нумары пачынаем друкаваць конкурсную аповесць выдатнага беларускага пісьменніка Васіля Быкава (стар. 6).

Прэзідыум абмеркаваў таксама праект структуры БГКТ пасля новага адміністрацыйнага падзелу.

Гэтай тэме і справаздачна-выбарнай кампаніі будзе прысвечаны пленум ГП БГКТ, які прэзідыум вырашыў склікаць на 26 кастрычніка г.г.

### АНКАЛАГІЧНЫ ПАВІЛЬЁН

Рак стаў найстрашнейшай хваробай нашых часоў. Пры лячэнні яго выкарыстоўваецца кобальтавая бомба. Яна ёсць і ў Беластоку, у ваяводскай бальніцы імя М. Складоўскай. Але будынак гэты не дастасаваны да патрэб такога лячэння. І вось менавіта таму будуецца па вуліцы Аградовай новы анкалагічны павільён. Кошт яго будовы складае суму 34 мільёны зл. Першых пацыентаў ён прыме ўжо ў чэрвені будучага года. З новым павільёнам анкалагічнае аддзяленне будзе мець 133 ложкі.

### БЕЛАСТОЦКІ ШКЛОЗАВОД

У Беластоку прадукцыя многіх фабрык і заводаў ідзе не толькі на ўнутраны рынак, але і на экспарт. Вось, напрыклад, шклозавод. Прадукуецца тут больш 100 відаў шкляных вырабаў. План прадукцыі бягучага года — 20 520 тыс. штук шкляных вырабаў, у тым ліку гаспадарчага шкла 16 300 тыс. штук і 4 220 тыс. штук шкла для асвятлення.

Беластоцкі шклозавод складаецца з двух прадпрыемстваў. Па вуліцы Рыжскай прадукуецца гаспадарчае шкло, а пры вуліцы Свежай шкло для асвятлення і крышталь. (мх)



*Пілот Т. Рыбіцкі дакладна „цыркліе“ самалёт на палетак.*







Нават я і не заўважыў, як мы адарваліся ад зямлі. Пад крылом ужо плывуць абкладзеныя зялёнымі шарыкамі дрэваў тонкія ніткі дарог, стракатыя лапікі палеткаў і, быццам дзіцячыя забаўкі, — домікі, хляўкі ды клунькі вёсачкі, што рассыпалася на скраю блакітнай сажалкі. Пілот **Тамаш Рыбіцкі** плаўным рухам адхіляе ад сябе штурвал, сцішаецца рокат матора, і мы востра з'язджаем на наводчыкаў, што з белымі шчытамі ў руках стаяць па краях палетка. Постаць першага наводчыка расце ў вачах, ужо нават відаць, як вераснёўскі ветрык трэпле яго буйныя валасы. Яшчэ міг — і мы, здаецца, за шклёным „ліхтаром“, у якім сядзім у самалёце, з усяго імпэту ўрэжамся ў зямлю. Але тут пілот бярэ штурвал на сябе і самалёт паслухмяна выраўноўвае лёт. Бартавы механік **Пётр Стаянюк** бліскавічна пакручвае нейкія ўключальнікі на пульце кіравання, і я бачу ў люстэрку, як на палетак ападае роўненькая смуга... суперфасфату. Мігнуў белы шчыт другога наводчыка, пад пальцамі механіка пстрыкнулі выключальнікі, і самалёт узвіваецца да сонца, затым кладзецца на крыло і, павярнуўшы, зноў дае нырца на наводчыкаў. Не прайшло і дваццаці мінут, як 1300 кілаграмаў суперфасфату рассеяны. Пілот паварочвае штурвал у напрамку палявой базы. Яшчэ мінуты тры-чатыры лёту, набліжаецца зямля, маленькі штуршок, і мы мякка пад'язджаем да штабелю мяшкоў са штучнымі ўгнаеннямі. Глохне матор, і наш белы птах застывае.

Не паспелі мы яшчэ выйсці з кабіны, як наземны механік **Уладзіслаў Конэрт,** агледзеўшы матор самалёта, ужо адкрывае люк для наступнай порцыі суперфасфату. Да самалёта пад'язджае патрузачны агрэгат, і два рабочыя за якія 5-6 мінут напаўняюць бак угнаеннем.

— Наш самалёт — дасканалая машына, працуецца на ім вельмі прыемна, — заўважае Т. Рыбіцкі. — Яго збудавалі на савецкай ліцэнзіі польскія рабочыя і інжынеры на заводзе ВСК у Мельцы. Нядаўна яго перадалі ў карыстанне ПГР-у ў Крынках. Але абслугоўваем мы таксама ПГР-ы ў Ігнатках і Бель-

**(Працяг на стар. 4)**




Маім духоўным настаўнікам з'яўляецца Якуб Колас, — прызнаецца настаўніца беларускай мовы з гміннай школы ў Дубічах Царкоўных **Анна Панфілюк.** — Ён — самы блізкі мне чалавек. І вы не здзіўляйцеся. Іменна Я. Колас у трылогіі „На ростанях“ найбольш аб'ектыўна і глыбока адлюстраваў асаблівасці працы настаўніка ў нашым беларускім асяроддзі. Таму я так часта звяртаюся да коласаўскіх твораў і ў іх знаходжу многа блізкага і роднага мне. Зрэшты, мне пашчаслівілася два разы пабыць на яго радзіме, калі я была на настаўніцкім курсе ў Мінску. Гэта былі незабыўныя дні.

А. Панфілюк у 1959 г. закончыла педагагічны ліцэй у Бельску і ад таго часу вучыць беларускай мове. Гэтыя 16 год працы не былі ўсланы ружамі. Вядома, апрача падручнікаў і небагатага кніжнага збору ў школьнай бібліятэцы, ніякіх дадатковых дапаможнікаў для навучання роднай мовы няма, усякую рэч трэба самому настаўніку рабіць саматуж. Да кожнага ўрока неабходна асабліва старанна рыхтавацца, каб быў ён і змястоўны і займальны. Настаўніца не шкадавала сваёй працы і часу. Але некалькі год таму настаў надта крытычны момант для навучання роднай мовы: шэраг бацькоў перастала пасылаць сваіх дзяцей на ўрокі. Гэта быў балючы ўдар для А. Панфілюк, для яе бязмежнай улюбёнасці ў сваю родную мову. Яна перажывала, плакала, але не апусціла рук. Звярнулася за дапамогай да мясцовага грамадска-палітычнага актыву, і ў яго знайшла падтрымку і дзейсную дапамогу. Сама таксама праводзіла выясняльныя гутаркі з бацькамі і дзяцьмі аб патрэбе і карысцях навучання роднай мове ў адукацыі і выхаванні. І ў грамадстве гміны Дубічы Царкоўныя перамагло разумнае і высакароднае: у гэтым годзе ўсе дзеці ў класах II, III, IV і VI ходзяць на ўрокі роднай мовы, таксама і ў іншых класах большасць дзяцей ахвотна яе вывучае. І цяпер агульная атмасфера ў вёсцы і гміне надта прыхільная для навучання беларускай мовы. Аказваецца, несправядлівая прыказка, што адзін у полі не воін: **і адзін чалавек можа зрабіць вельмі многа добрага.**

— Імкнуся да кожнага дзіцяці падыходзіць чула і далікатна — кажа А. Панфілюк. — Асабліва многа часу аддаджу слабейшым вучням, займаюся з імі індывідуальна. Хатняй работы задаю мала, бо лічу, што аснова засваення

**(Працяг на стар. 5)**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ“




# НАРАДЖЭННЕ НЕЗАЛЕЖНАЙ КРАІНЫ

У Акіяніі нарадзілася новая незалежная дзяржава — Папуа-Новая Гвінея. Яна займае ўсходнюю частку Новай Гвінеі, другога па велічыні (пасля Грэнландыі) вострава на зямлі, а таксама шэраг суседніх з ім астравоў. Насельніцтва яго — 2,5 мільёна чалавек.

У гісторыі гэтай краіны, як у кроплі вады, адлюстроўваецца гісторыя каланіяльных заваёў. Раздзел вострава Новая Гвінея быў завершаны ў 80-х гадах мінулага стагоддзя: заходнюю частку яго захапіла Галандыя (яна стала затым часткай Індамезіі), паўночна-ўсходнюю — Германія (яна атрымала назву Зямлі імператара Вільгельма) і паўднёва-ўсходнюю — Англія. У 1901 годзе Англія перадала гэту частку вострава, перайменаваўшы яе ў Папуа, ва ўладанне Аўстраліі. Пасля першай сусветнай вайны — у выніку разгрому Германіі — Аўстралія атрымала таксама ад Лігі нацый мандат на былую германскую калонію Зямлю імператара Вільгельма. У 1949 годзе Аўстралія аб'яднала абедзве падапечныя тэрыторыі, даўшы ім цяперашнюю назву. Гэтай тэрыторыяй стаў кіраваць аўстралійскі адміністратар.

1 снежня 1973 года Папуа-Новая Гвінея атрымала статус самакіруемай тэрыторыі, у веданне якой перайшлі, праўда, толькі ўнутраныя справы. Да прадстаўлення поўнай незалежнасці пытанні абароны і знешняй палітыкі заставаліся ў веданні ўрада Аўстраліі.

Летам гэтага года Палата сходу (парламент) Папуа-Новай Гвінеі прыняла рашэнне абвясціць незалежнасць краіны 16 верасня.

...Цяжкадаступныя, зрэзаныя цяснінамі горы Папуа-Новай Гвінеі захоўваюць велізарныя прыродныя багацці. Нават таго, што ўжо знойдзена, — золата, марганец, медзь — дастаткова, каб прадказаць спрыяльную будучыню незалежнай краіны. Ва ўрадлівых далінах вырошчваюцца кава, какава, чай, батат. Зараснікі какосавых пальмаў і каўчуканосных дрэваў спускаюцца да самага ўзбярэжжа.

Аднак, як і ўсюды, каланіялізм пакідае на гэтай зямлі сваю цяжкую спадчыну. Каланізатары не праяўлялі клопатаў аб эканамічным і культурным развіцці краіны. Пераважная большасць насельніцтва да гэтага часу існуе за кошт натуральнай гаспадаркі. Шматлікія плямёны, якія размаўляюць на розных мовах, і цяпер знаходзяцца ў варожасці з-за зямлі, пасеваў, жывёлы. Сапраўдная цывілізацыя, можна сказаць, не закранула гэтых плямёнаў.

Самы важны ў эканамічных адносінах раён Папуа-Новай Гвінеі — Бугенвільскія медныя руднікі, вядомыя пад назвай „Бугенвіль копер". Яны размешчаны на аднайменным востраве. Гэтыя руднікі, адны з буйнейшых у свеце, кантралююцца англійскай манаполіяй „Рыо-Цінта цынк карпарэйшн" і яе аўстралійскім філіялам. І трэба сказаць, што іменна адгэтуль зыходзіць найбольш сур'ёзная небяспека палітычнаму адзінству, нармальнаму эканамічнаму развіццю і нават цэласнасці краіны. Рознага роду сепаратысцкія рэгіянальныя групы з некаторага часу выступаюць за аддзяленне вострава Бугенвіль ад Папуа-Новай Гвінеі.

Каб пакласці канец разрабаванню прыродных багаццяў і ўзяць пад кантроль замежны капітал, парламент Папуа-Новай Гвінеі ўстанавіў нацыянальнае ўпраўленне па пытаннях капіталаўкладанняў. Гэта ўрадавая арганізацыя мае намер абмежаваць дзейнасць манаполіі і паставіць багацці краіны на службу інтарэсам карэннага насельніцтва.

Папуа-Новая Гвінея пастулова расшырае сувязь з іншымі дзяржавамі. Яна выступае за стварэнне сапраўднай зоны міру і нейтралітэту ў Ціхім і Індыйскім акіянах.

С. Фролкін


*Будучыя мастакі на занятках.*

Карэспандэнцыя з Мінска

# ШКОЛА МАСТАЦТВАЎ

Шматпавярховыя дамы па Абутковай вуліцы Мінска збягаюць уніз з пагорка. На яго вярхушцы, у баку ад шырокай, схопленай у асфальт магістралі, стаіць светлы будынак рэспубліканскай школы-інтэрната па музыцы і выяўленчаму мастацтву. Кругом жылыя дамы, яны ціснуцца адзін да другога, быццам аберагаючы гмах ад злых вятроў і халодных сцюж.

Я стаю каля будынка, гляджу на яго светлы фасад, чыстае шкло вокан.

Пераступаю парог школы. Направа — лесвіца, побач спартыўная зала. З верхняга паверха чуваць нягучныя, чыстыя гукі. Нехта іграе на раялі. Бетховен... Гэта яго другая сімфонія, юнацкая, жыццерадасная.

Дырэктар школы Марыя Масальская — невысокая, у цёмным шарсцяным касцюме, з мілай прыветлівай усмешкай расказвае аб сваіх выхаванках, аб жыцці школы. У голасе жанчыны чуваць лёгкае хваляванне і тая асаблівая цеплыня, шчырасць, якія ўласцівы людзям са шчодрай душою, улюбёным у сваю справу. Можна лёгка растлумачыць і грамаднае чалавечае абаянне гэтай жанчыны. Бо яе думкі, праца аддадзены самаму цудоўнаму ў свеце — дзецям.

— У нашай школе, — расказвае Марыя Масальская, — вучыцца больш 300 здольных дзяцей. Адны займаюцца на музычным аддзяленні, па класах фартэпіяна, скрыпкі, віяланчэлі, духавых інструментаў, дырыжорства, харавога спеву, іншыя імкнуцца авалодаць мастацтвам жывапісу, малюнка, кампазіцыі, скульптуры, графікі. Прытым, на аддзяленні выяўленчага мастацтва шмат хлопчыкаў. Усе яны, за рэдкім выключэннем, прыехалі ў школу з далёкіх сёл і вёсак Беларусі.

Кожнае лета выкладчыкі малявання выязджаюць у доўгія камандзіроўкі. Яны бываюць у студыях, гуртках малявання, лепкі, створаных для школьнікаў у рабочых і калгасных клубах, знаходзяць там найбольш таленавітых, здольных і запрашаюць іх вучыцца ў школу. Умовы вучобы ў школе добрыя. Бацькам за вучобу плаціць даводзіцца зусім нямнога. А дзеці-сіраты ўтрымліваюцца тут на поўным дзяржаўным забеспячэнні.

Педагогі-спецыялісты перадаюць дзецям свае веды, вопыт, дапамагаюць правільна ўспрымаць каляровае, рытмічнае і гукавое багацце свету, паўней і больш усебакова разумець мову мастацтва. Цяжкая, адказная праца і выхавальнікаў. Гэта вельмі добрыя, чулыя людзі, якія любяць дзяцей і аддаюць ім усё цяпло сваіх сэрцаў.

Школа жыве вялікім і поўнакроўным жыццём. У ёй вучацца людзі, якія будуць упрыгожваць і рабіць радасным жыццё іншых.

Ольга Сіманава
Фота Э. Трыгубовіча


*Рэпетыцыя камернага аркестра.*

# Памёр Міхась Лынькоў

**21 верасня г.г. на 76-м годзе жыцця пасля працяглай і цяжкай хваробы памёр народны пісьменнік Беларусі Міхась Лынькоў.**

**Кнігі Міхася Лынькова, у якіх глыбока адлюстравана жыццё роднага народа, заваявалі шырокае прызнанне і любоў чытачоў. Яны перакладаліся на рускую, украінскую, літоўскую і іншыя мовы народаў Савецкага Саюза, а таксама выдаваліся за рубяжом.**

**На жалобным мітынгу старшыня камісіі па арганізацыі пахавання М. Лынькова, першы намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР У. Міцкевіч сказаў:**

**— Міхась Лынькоў — адзін з выдатных прадстаўнікоў беларускай савецкай мастацкай інтэлігенцыі — цэлая эпоха ў гісторыі культуры нашай рэспублікі, у развіцці яе літаратуры. Яго жыццё — надзвычай яркае сведчанне таго, як абуджаныя Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыяй творчыя сілы беларускага народа нястрымна ўзняліся да свядомай гістарычнай дзейнасці, да духоўнага росквіту ва ўсіх сферах грамадскага жыцця і дасягнулі сапраўдных вышынь сацыяльнага прагрэсу.**

**У асобе Міхася Лынькова беларускі народ страціў вялікага мастака слова, буйнага вучонага і грамадскага дзеяча.**




**Sobota 11.X.** 6.30 Tech. Rol. Mat. 7.00 Bot. 9.30 Film. 10.00 Dla szkół: (kl. VII) Zoolog. Stułbiopławy, krążkopławy, koralowce. 11.05 (kl. VIII) Geogr. Afryka równik. 13.45 Tech. Rol. J. pol. 14.30 Hod. zwierz. 15.35 Pr. I prop. 15.50 Pr. dnia. 16.00 Dzien. 16.10 Obiektyw. 16.30 Żołnierski trud — film. 16.55 Sport dla Ciebie. 17.15 Sobota Mł. 18.05 Studio otwartych drzwi. 19.20 Dobr. 19.30 Monitor. 20.20 Teatr Komedii: Z. Gozdawa i W. Stępień. Bliźniak. 21.35 Dzien. 21.50 Sport. 22.00 Blok rozr. 23.30 Opowieści Starszego Pana.

**Niedziela 12.X.** 6.25 Tech. Rol. J. pol. 6.55 Hod. zwierz. 7.25 Kurs Rol. 8.00 Przyp., radz. 8.10 Now. w domu i zagr. 8.35 Bieg po zdr. 8.50 Sport. 8.55 Pr. dnia. 9.00 TELERANEK. 10.10 Antena. 10.30 Michał Anioł — film fab. wł. cz. I. 12.00 Ur. Odpr. Wart przy Grobie Niezn. Żołn. w Warsz. 12.45 Lekt. Pegaza. 13.05 Dzien. 13.25 Tydzień. 13.55 Pr. dla dzieci. 14.40 Wiosna — film fab. radz. 16.10 Los. Toto-Lot. 16.25 Spotk. z gwiazdami jazzu. 17.05 Refl. ob. 17.20 Sport. 18.10 Tele-Echo. 19.15 Wieczor. 19.30 Dzien. 20.20 Dobr. dla dor. 20.30 Z cyklu: Adapt. Conrada. Smuga cienia — film ser. fr. 22.00 Lolo, Ivetta i... 22.30 Sport. 22.50 Studio J. Szajny.

**Poniedziałek 13.X.** 12.45 Tech. Rol. Chem. 13.25 Zoolog. 15.55 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.40 Echo stad. 18.05 Dzień po dniu — film ser. radz. 18.55 Mam pomysł. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Teatr TV: H. Müller. Huragan. 21.40 Kontrakt. 22.05 Dzien. 22.25 Sport. 22.35 Rel. z Konk. Chopin.

**Wtorek 14.X.** 6.30 Tech. Rol. Chem. 7.00 Zoolog. 9.00 Dla najmł. 9.30 Smuga cienia — film ser. fr. 11.05 Dla szkół: (kl. III lic.) J. pol. St. Wyspiański. Wesele. odc. I. 12.00 (kl. VIII) Hist. Pierwsze lata II Rzeczposp. 13.45 Tech. Rol. Mat. 14.30 Mech. rol. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Nie tylko dla pań. 17.25 Tuzin. 17.50 Stud. Mł. 18.40 (Fakty, Op., Hip.). 19.15 Przyp., radz. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Bracia Lautensack — film NRD odc. 5. 21.10 Swiat i Polska. 21.55 Goście — Sopot 75. 22.15 Dzien. 22.35 Sport.

**Środa 15.X.** 6.30 Tech. Rol. Mat. 7.00 Mech. rol. 9.10 Bracia Lautensack — film ser. NRD odc. 5. 10.00 Dla szkół: (kl. VII) Fiz. O ruchach". 12.45 Tech. Rol. Upr. rośl. 13.25 Hod. zwierz. 15.55 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.30 Los. Mał. Lot. 17.40 Inf., Tow., Prop. 17.50 Pr. muz. 18.25 Poligon. 18.45 Hangloi — film wiet. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.10 P. nożna. Polska—Holandia. 22.10 Czym żyje świat. 22.40 Dzien. 23.00 Sport.

**Czwartek 16.X.** 6.30 Tech. Rol. Upr. rośl. 7.00 Hod. zwierz. 8.00 Kurs Inf. 9.00 Dla szkół: (kl. VIII i I lic.) Przysp. obr. Niebezpiecz. współcz. wojny. 9.30 Maki Isyk Kul — film przyg. radz. 12.00 Dla szkół: (kl. VIII) J. pol. Władysław Reymont. 12.55 (kl. IV lic.) Pol. poezja współcz. 13.45 Tech. Rol. Fiz. 14.30 Upr. rośl. 15.05 Mat. w szk. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 18.15 Pr. publ. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Przyp., radz. 20.25 Doczekać zmroku — film fab. USA. 22.10 Pegaz. 22.55 Dzien. 23.15 Sport.

**Piątek 17.X.** 6.30 Tech. Rol. Fiz. 7.00 Upr. rośl. 9.00 Dla najmł. (kl. III) Wojsko, wojsko... 9.20 Doczekać zmroku — film fab. USA. 11.05 Dla szkół: (kl. I—III lic.) Wych. tech. W Instytucie naukowo-bad. 12.00 (kl. VIII) Wych. ob. Rady i naczelnicy. 12.45 Tech. Rol. Mat. 13.25 Mech. rol. 15.55 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 18.00 Inf. Wyd. 18.15 Mała Encykl. Zwierz. Film ser. fr. 18.50 Eureka. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 5×1. Teletur. 21.20 Panorama. 22.00 IX Międzynar. Konk. Pian. im. F. Chopina. 22.25 Gospodarność i ja. 22.40 Dzien. 22.55 Mag. ITP. 23.05 Sport.




**Piątek 10.X** — 8.15 Film fab. 18.20 Hokej. Dynamo (Moskwa)—Chemik. 2 i 3 tercja. 20.10 Koncert. 21.10 Akrobatyka. Mistrz. ZSRR.

**Sobota 11.X** — 12.00 Hokej. CSKA—Skrzydła Rad. 19.30 Pr. rozr. 21.10 Akrobatyka. Mistrz. ZSRR.

**Niedziela 12.X** — 11.30 Mł. konkurs. Homel—Grodno. 14.55 P. nożna. Mistrz. Europy. Szwajcaria—ZSRR. 16.45 Film dok. 17.10 Cyrk. 18.05 Klub film.




**Białowieża** Straszna teściowa — radz. 14—15. Swobodny oddech — węg. 16—17. Luke — wł. 18—19.

**Czeremcha** Królowa dzikiego zachodu — fr. 14—15. Nie ma róży bez ognia — pol. 18—19.

**Czyże** Kraksa — wł. Kajtek i siedmiogłowy smok — węg. 15—19.

**Dubicze Cerkiewne** Bezdomny — wł. Hrabina Cosel — pol. 15—19.

**Gródek** Straszna teściowa — radz. 18—19.

**Kleszczele** Brat Homera — jug. 14—15. Hrabina Cosel — pol. 16—17. Adaś i Ola — czes. 18—19.

**Michałowo** Rodeo — USA 14—15. Bądź w porcie nocą — ang. 16—17. Wybacz i żegnaj — radz. 18—19.

**Milejczyce** Trzecia część nocy — 14—15. Zabójstwo inż. Czarta — czes. 16—17. Kobiety, które kochałem — rum. 18—19.

**Narew** Faraon — pol. 15—19.

**Narewka** Przygody psa Cywila — pol. Przez pustynię — mek. 15—19.

Peppino podbija Amerykę — wł. 18—19.
14—15. Walter broni Sarajewa — jug. 16—17. Peppino podbija Amerykę — wł. 18—19.

**Orla** Janosik — pol. 15—19.

**Rajsk** Helga — RFN. Osobliwa miłość — wł. 15—19.

**Suchowola** Gorący śnieg — radz. Tylko wtedy gdy się śmieję — ang. 15—19.

B.Z.Graf. Zam. 2465 P-1.


*Спраўна адбываецца пагрузка штучных угнаенняў.*

(Працяг са стар. 1)




ску. За дзень робім 25-30 вылетаў і рассяваем 30-40 тон штучных угнаенняў. Цяпер якраз угнойваем палі суперфасфатам і калійнай соллю пад азімыя пасевы. Потым маем засеяць, таксама з самалёта, каля 200 га жыта тут, у ПГР-ы Крынкі. Шмат палявых работ з паветра чакае нас у Ігнатках і Бельску...

— Цяпер у сельскай гаспадарцы без самалёта, як без рук, — прызнаецца кіраўнік сельскагаспадарчых работ крынкаўскага ПГР-у **Мірон Валасінскі**. — Асабліва выгадна прымяненне яго на вялікіх абшарах. Але і на меншых палетках наш пілот так выцырклюе, што сее не горш, чым сеялкай. У бягучым годзе самалёт „апрацаваў" нам каля 9 тысяч гектараў. Апрача рассявання штучных угнаенняў, вясной сеяў нам авёс, лубін і іншыя расліны. Затым, ужо ўлетку, распырскваў спецыяльныя хімічныя рэчывы, якія паскараюць даспяванне раслін. Гэтай восенню з самалёта мы рассеем яшчэ штучныя ўгнаенні на 3 тысячах гектараў.

Запраўка суперфасфатам і палівам закончана. Пілот і бартавы механік, надзеўшы шлемафоны, схіляюцца да пульта кіравання, прапелер паскорвае сваю працу. Белы птах паволі ад'язджае ад штабелю штучных угнаенняў, на пожні набірае разгону і вось ён зноў у паветры. Кладзецца на крыло і кіруецца ў бок палетка, каб далей рассяваць пэўны задатак пад будучы ўраджай.

**М. Гайдук**
Фота аўтара

# ВАРТА БЫЛО ПАБЫЦЬ У ЧАРОМСЕ

Чатырнаццатага верасня. Цёплая, сонечная нядзеля. У чыгуначнай Чаромсе свята. У гэты дзень адбыліся тут аж тры падзеі: свята ўраджаю, Дзень чыгуначніка і перадача ў карыстанне новага гандлёвага павільёна.

Ужо з самай раніцы да дома культуры „Чыгуначнік" ішлі школьнікі, моладзь з навакольных вёсак. Сабралася каля дзвюх тысяч чалавек.

Пачаліся дажынкі.

Звычаёвы бохан хлеба і вянок уручылі гаспадару дажынак І сакратару Гміннага камітэта ПАРП Казіміру Краўчыку старасціна Вераніка Міхальчук і староста Васіль Астапковіч.

Вылучэнне гэтых асоб на так ганаровае месца адбылося невыпадкова. Вераніка Міхальчук наладзіла вялікую свінагадоўлю, прадае дзяржаве ў сярэднім каля чатырох тон мяса ў год. А Васіль Астапкевіч з'яўляецца перадавым гаспадаром у Чаромсе. У яго гаспадарцы сярэдні ўраджай даходзіць да трыццаці васьмі цэнтнераў з аднаго гектара. Карыстаецца ён вялікім аўтарытэтам сярод суседзяў і агулу насельніцтва.

Са святочнай прамовай выступіў Сяргей Сац, начальнік Чаромхаўскай гміны. Гаварыў ён аб здабытках гаспадароў і чыгуначнікаў — дажынкі былі спалучаны з Днём чыгуначніка. Большасць чыгуначнікаў, гэта былыя гаспадары.

Пяць асоб атрымала значкі „Заслужаны для Беласточчыны": Ежы Ажынскі, Юзэф Міхальскі, Васіль Яфімюк, Уладзімір Саўчук і Іван Унучка, с. Івана. Пяць гаспадароў і дзесяць чыгуначнікаў узнагароджана ганаровымі граматамі.

На дажынках выступіў мастацкі калектыў Тэхнікума жывёлаводства ў Чартаеве „Залатыя каласы", а таксама школьнікі з Кляшчэляў і Чаромхі. Сімпатыкі футболу маглі пабачыць спартыўную сустрэчу паміж камандамі Чаромхі і Кляшчэляў. Перамаглі чаромхаўцы з лікам 7:0. Увечары адбыліся танцы.

На дажынкі былі наладжаны выстаўкі ўраджаю і сельскагаспадарчых машын, ды выстаўка малочных прадуктаў. Было паказана каля дваццаці экземпляраў сельскагаспадарчых пладоў і дзесяць сельскагаспадарчых машын, м.ін. камбайн „Бізон", бульбакапалка з Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, югаслаўскія і чэхаславацкія касілкі, прэс для саломы і самы сучасны трактар „Урсус Ц-385".

Варта было пабыць у Чаромсе ў тую сонечную нядзелю.

**Уладзімір Сідарук**

# КУПЯЦЬ КОЖНУЮ КОЛЬКАСЦЬ!

Затаркаталі па гумнах малатарні, выплёўваючы залацістае зерне, якое яшчэ так нядаўна сядзела спакойна ў сваім коласе-доме, ціха размаўляючы з ветрам, а цяпер роўным струменьчыкам уліваецца ў шырокае горла мяшка. Напоўніўшы яго пусты жывот — гайда ў горад, на рынак або на скупку.

Гарачыя дні наступілі на пункце скупкі збожжа ў Бельску, які працуе амаль круглы год, гэта значыць ад 1 ліпеня да 31 мая. Працы шмат. Сяляне, з большага ўправіўшыся з палявымі работамі, пачалі здаваць збожжа дзяржаве. Бельскі пункт, які ў асноўным абапіраецца на ўласных плантатарах, паставіў перад сабой задачу, каб не адстаць ад мінулага года, калі скупілі 3.600 тон, у тым ліку 1000 забралі ад гаспадароў уласным транспартам.

— Адно толькі стаіць на перашкодзе, — гавораць у ГС-е. — Ходзяць чуткі, што ў параўнанні з рынкавай цаной мы надта мала плацім, што цана за цэнтнер не перавышае 150 зл.

Няпраўда. Нельга верыць пустым чуткам. Плацяць намнога больш. Цана аднаго цэнтнера жыта, у залежнасці ад якасці, вагаецца ў граніцах 294-306 зл. Прывозьце, скупка чакае.

**М. Ш.**
Фота **Я. Цялушэцкага**


*Кіраўнік пункта скупкі правярае якасць збожжа, якое прывёз селянін Ян Мінкевіч з Праневічаў.*

(Працяг са стар. 3)

# Старонкі
## беларускага турызму

таксама клопату з харчаваннем. Казіно ў палацавым парку мела 200 месц. Апрача таго, турысты маглі сталавацца ў прыватных рэстаранах, якіх у пасёлку было ў той час вельмі многа.

Прыезд у Белавежу запэўнівалі цягнікі, курсіруючыя два разы ў суткі. Апрача таго, ад 1934 г. пачаў курсіраваць аўтобус з Беластока. У той жа час турысты змаглі карыстацца лясной вузкакалейнай чыгункай. У 1930 г. быў адкрыты ў палацы лясны музей. Экскурсантаў вадзілі ляснічы Раман Ясінскі, дырэктар парку Ян Ежы Карпінскі і іншыя леснікі, як, напрыклад, Ю. Гапановіч ці К. Сімсан.

II сусветная вайна спыніла вельмі добра развіваючыся турысцкі рух. Немцы пакінулі пушчу ў ліпені 1944 г., але першых турыстаў Белавежа вітала ў канцы 1945 г. Каб дасягнуць лік наведваючых з 1939 г., трэба было чакаць аж да 1962 г. Цэлым турысцкім рухам пачало кіраваць створанае ў 1958 г. праўленнем аддзела ПТТК у Беластоку — турысцкае бюро. У красавіку 1959 г. па ініцыятыве тадышняга кіраўніка гасцініцы ПТТК Л. Казлоўскага ствараецца гурток экскурсаводаў, які з 27 чалавек павялічыўся сёння да 70 асоб.

У 1968 г. Белавежу ўпісваюць у мясцовасці, куды аддзел кангрэсаў і спецыяльнага турызму ПБП „Орбіс" у Варшаве арганізуе экскурсіі для ўдзельнікаў міжнародных з'ездаў і семінараў. Спрыяла гэтаму пабудова ў Белавежы гасцініцы „Іва", якая мае 48 камфартабельных 2- і 3-асабовых пакояў.

Начлежная база сённяшняй Белавежы запэўнівае начлегі звыш 500 асобам. Харчавацца ж можа каля 1.000 чалавек у дзень.

Штогод Белавежу (ад 1971 г.) наведвае звыш 100 тыс. турыстаў. У 1973 г., напрыклад, прыехала сюды каля 140 тыс. чалавек. Разам, у гадах 1946-74 было тут 1 333 000 прыезджых, сярод якіх звыш 28 000 — гэта чужаземцы з 80 дзяржаў.

**П. Байко**

*Гасцініца „Іва" ў Белавежы.* *Фота Я. Цялушэцкага.*

Беларуская літаратура. Аляксандр Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

**АЛЕСЬ ГАРУН — ЧАСТКА XXVI**

**Сэнс жыцця.** Праблемы чалавечага лёсу, адзіноцтва, смерці выступілі ў многіх вершах Гаруна. З найбольшай інтэнсіўнасцю праявіліся яны ў такіх творах, як „Слабасці", „Літанне Адзіноце", „Навука", „Нактурно", „Ноч", „Адбітак". Усе гэтыя вершы маюць выразна асабісты характар. Характарызуе іх глыбокі суб'ектывізм і псіхалагізм. Цікава, што такія супольныя паняцці, як нядоля, слабасць, адзінота, пісьменнік персаніфікуе, гэта значыць, прадстаўляе ў чалавечых постацях. Дык нічога дзіўнага, што ўсе гэтыя тэрміны піша з вялікай літары. Для паэта Слабасць, Адзінота, Нядоля — гэта імёны канкрэтных персанажаў.

Мы ўжо падкрэслівалі, што тэзіс аб татальным песімізме ў паэзіі Гаруна беспадстаўны. Праявы веры і бадзёрасці праяўляюцца ў многіх катэгорыях яго паэзіі. Староннікі тэзіса аб песімізме Гаруна могуць, аднак, смела спасылацца на адзначаныя намі вышэй вершы паэта. Тут сапраўды дамінуюць настроі бязвыхаднасці.

Галоўны вывад асабістых вершаў такі: лёс чалавека незалежны ад яго волі, ад яго розуму, ад яго дзейнасці. Характар жыцця чалавека даецца яму разам з нараджэннем. Гарун выразна верыць у існаванне нейкай вышэйшай сілы, якая акрэслівае лёс чалавека. Такім чынам, можам назваць цыкл гэтых вершаў творамі фаталістычнымі. Гаспадаром, панам нашага існавання з'яўляемся не мы, а таямнічы фатум. Адзіноцтва, нядоля, слабасць і смерць — усё гэта інструменты дзейнасці ўсемагутнага фатума. Нічога дзіўнага, што, прымаючы такую філасофію жыцця, Гарун пападае не толькі ў песімізм, бязвер'е, але нярэдка і ў адчай.

Іншай характэрнай рысай некаторых вершаў, якія належаць да фаталістычнага цыкла, з'яўляюцца спробы правесці аналогію паміж чалавекам і прыродай. У адным выпадку Гарун стараецца супрацьставіць эгаістычны, канфліктны характар міжчалавечых адносін гарманіійнаму і альтруістычнаму характару адносін у прыродзе. У другім схільны бачыць аналогію паміж непазбежнымі законамі ў прыродзе і фаталістычнай непазбежнасцю ў жыцці чалавека.

Калі хто лічыць, што існуе над намі нейкі ўсясільны фатум і наша жыццё залежыць не ад нас, а толькі ад яго, дык зразумела, што ў такім выпадку не можа ён прапанаваць праграмы барацьбы за акрэсленыя змены ў нашым жыцці. Якраз недахоп гэтай праграмы кідаецца ў вочы ў Гаруновых вершах фаталістычнага цыкла. Можам смела гэтыя вершы назваць прымірэнцкімі, пасіўнымі.

Пэўным выключэннем можам тут лічыць верш пад загалоўкам „Слабасці". У гэтым творы паэт характарызуе настрой свае душы пасля арышту. Гаворыць алегарычна аб персанажы Слабасці, якая нагаварвае яго змірыцца з існуючым станам рэчаў:

*То ж ты ка мне прыйшла, як волю адабраў*
*Тыран маю, скуў цела ланцугамі,*
*І думкі вольныя з душы павыдзіраў*
*І растаптаў нагамі!*
*То ж ты прыйшла тады і стала ля вакна*
*І ў вочы мне зірнула цераз краты,*
*Ты, подлая, ніхто, як ты адна,*
*Ты будзь праклята!*

Тут выразна адчуваецца пратэст пісьменніка супраць апартунізму, супраць прымірэнцтва, супраць пасіўнасці і рэзыгнацыі. Такі настрой, аднак, у асабістых вершах рэдкасць. Наогул пануе ў іх бяссільнасць. Напрыклад, у вершы „Адбітак" паэт, нездаволены характарам чалавечага быцця, апрача сумненняў і рэзыгнацыі не выяўляе ніякіх творчых пачуццяў:

*Дзіўлюся я на зораў ясных ззянне,*
*На сцежкі іх, усё ж тыя, як прад векам,*
*І сумна мне і родзіць сум пытанне:*
*Нашто пачаўся я ад бога — чалавекам?*

Не знаходзячы адказаў на надзённыя пытанні, не знаходзячы выхаду з лабірынту жыцця, не знаходзячы спосабаў барацьбы з нядоляй, паэт знаходзіць дарогу ў паднебную высь, у „ззянне ясных зораў", свет якіх здаецца яму больш дасканалым і лепшым ад свету людзей.

## ВЕР-НЕ ВЕР

„Дарагі астролаг! Сардэчна прашу цябе высніць мне некалькі мучачых мяне ў апошні час сноў. Наогул яны вельмі багатыя і разнародныя, але некаторыя з іх паўтараюцца вельмі часта. Часта сніцца, што вяртаюся ў сваю вёску: раз фурманкай, раз поездам, а то і пехатой. Але ніколі не магу знайсці адпаведнай дарогі. А дарог тых мноства, у розныя бакі. І куды б я не пайшла, то аказваецца, што я заблудзілася, хаця ведаю мясцовасць. Часамі лукаю сярод палёў, часамі гэта незнаёмыя вёскі, іншым разам вялікі лес. І толькі на світанні ўдаецца мне знайсці ўласцівую дарогу.

Іншым разам мне сніцца, што я на вёсцы, у сваёй суседкі і я вельмі здзіўлена, што ў яе хаце такая маса прыгожых, багатых дываноў.

У трэцім сне я мела вельмі прыгожыя, доўгія і багатыя валасы, якія прычэсваю, заплятаю косы.

Яшчэ ў сне я часта збіраю грыбы.

А ў апошнім часе сніцца, што краду нейкія вельмі прыгожыя матэрыялы. Што могуць абазначаць гэтыя мае частыя сны?“

**Сталая чытачка „Нівы“ Яніна**

Дарагая чытачка! Вы задалі мне шмат пытанняў. Пастараюся адказаць па парадку. Заблудзіцца ў полі ці ў лесе — поспех у справах і вернае дасягненне мэты. Дываны — адпачынак, спакой, камфорт і багацце. Валасы густыя ў сябе ці ў другога бачыць — багацце і сіла. Прычэсвацца — сямейны пераварот, новае жыццё. Заплятаць сабе ці каму іншаму валасы — каханне і радасць. Збіраць грыбы — каханне з узаемнасцю. Г-м-м, але чаму вы кралі матэрыялы? Матэрыялы ў вялікай колькасці абазначалі б вялікае падарожжа, але ж вы іх кралі, а красці — гэта ўжо нейкае паніжэнне і смутак.

Глядзіце, ці ваша каханне не прывядзе вас у выніку да руіны...

**Астрон**

## Кансультацыя ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ: У час супольнага жыцця муж і жонка пабудавалі дом на ўчастку, які быў уласнасцю мужа. Нядаўна муж і жонка ўзялі развод. Муж гаворыць, што жонка не мае ніякага права на дом, паколькі дом пабудаваны на яго пляцы і з'яўляецца яго ўласнасцю. Ён патражае, што выкіне яе з хаты. Пры жонцы знаходзіцца дзіця, якое было аддадзена на выхаванне жонцы ў час разводу. Ці можа жонка дамагацца пры падзеле, каб дом быў прызнаны ёй?

АДКАЗ: Дом з'яўляецца ўласнасцю мужа, паколькі пабудаваны на яго пляцы, а будынак, як правіла, з'яўляецца ўласнасцю таго, хто з'яўляецца ўласнікам участка, на якім дом пабудаваны. Гэта не значыць, што жонка не мае ніякага права на дом. Пры падзеле маёмасці жонка мае права патрабаваць паловы вартасці дому, бо грошы, унесеныя на пабудову дома, з'яўляюцца супольнай уласнасцю мужа і жонкі. Паколькі дом з'яўляецца ўласнасцю мужа, жонка не можа патрабаваць, каб дом быў прыдзелены ёй. Самавольна выкінуць жонку з дома муж не можа. Суд можа загадаць, каб жонка пакінула дом, аднак выкананне гэтага рашэння можа наступіць пасля таго, як жонцы дадуць іншую кватэру.

## Этнаграфічнае акенца



*Млын на рацэ Сідры каля мястэчка Сідра.* *Фота М. Гайдука.*




### У здаровым целе здаровы дух

### СОН ДЗІЦЯЦІ

Усім вядома, якое велізарнае значэнне для здароўя дзіцяці і яго адпаведнага развіцця мае сон.

Колькі гадзін павінна спаць дзіця? Калі споўніцца дзіцяці адзін год, яно радыкальным чынам змяняе свае павадзіны, а таксама і патрэбнасці ў сне. І так, у першым квартале другога года жыцця дзіця спіць яшчэ два разы ў дзень па паўтары гадзіны. Начны адпачынак павінен вагацца паміж 10-11 гадзінамі. У другім паўгоддзі другога года жыцця дзіця спіць ужо раз у дзень, пасля поўдня, каля 2 гадзін, а ўначы — так, як і раней. Толькі ва ўзросце 5-6 год дзіця перастае спаць удзень. Патрэбнасць у начным сне ў гэтым ўзросце бывае вельмі розная. Ёсць дзеці, якім дастаткова 9 гадзін, іншыя патрабуюць нават 12 гадзін.

Што спрыяе добраму адпачынку дзіцяці? Зручная, роўная пасцель, чыстая бялізна, свабодная начная кашуля, прыстасаваная да тэмпературы пакоя коўдра, спакой і свежае паветра. Таму перад сном пакой дзіцяці трэба добра праветрыць.

Дзеці, якім пайшоў другі год, засынаюць інакш, чым грудныя дзеці. Патрэбнасць у сне рэгулюецца спецыяльным механізмам. Чым меншае дзіця, тым механізм гэты дзейнічае мацней, чым старэйшае, тым большую ролю адыгрываюць дадатковыя фактары з асяроддзя і ўласныя перажыванні дзіцяці. Найчасцей дзейнічаюць яны ўзбуджаюча. Таму вялікай заслугай маці было б умела выключыць гэтыя фактары са свядомасці дзіцяці перад яго сном.

Прыблізна на гадзіну перад сном дзіця павінна весці сябе спакойна, не павінна занадта гучна гуляць і нервавацца. Без спеху трэба яго памыць, пераапрануць у начную кашульку ці піжамку і палажыць у ложак. Ніводная маці ў гэты момант, напэўна, не забудзе, што дзіця перад сном патрабуе чуллівасці, пацалунку. Тады яно будзе спаць намнога спакайней.

Ці дзіця павінна спаць у цемры? Не, дастаткова, а нават яшчэ лепш, было б яму спаць у змроку, так, каб відаць былі контуры мэблі. Калі дзіця спіць у адным пакоі з дарослымі, неабходна святло з боку ложачка засланяць.

Нядобра дзеецца, калі малыша трэба будзіць. Гэта абазначае, што ён занадта позна пайшоў спаць. Дзіця павінна будзіцца само, а як прачнецца, не павінна занадта доўга знаходзіцца ў пасцелі. Калі дзіця прачынаецца само, у яго будзе добры настрой, яно будзе бадзёрае і вясёлае. А гэта будзе абазначаць, што яно выспалася. Разумная маці чулліва прывітае дзіця.

**Эскулап**

## Сардэчныя тайны

**Дарагое „Сэрцайка“!**

Мне 22 гады. Жыву на вёсцы. З Ёзікам сябравала 3 гады. Нядаўна вярнуўся ён з войска. Яшчэ перад войскам часта ў мяне бываў, а ў час побыту ў войску, калі толькі атрымаў водпуск, дык абавязкова мяне наведаў. Нават прапанаваў жаніцца. Але я не згадзілася, падумала, што лепш ужо тады, калі вернецца з войска. Вярнуўшыся з войска, ён прыйшоў да мяне. Мы пайшлі вечарам на шпацыр. Тады Ёзік і сказаў, што мы ўжо даволі доўга знаёмы, верым сабе, адным словам ад таго часу я цяжарная. Як толькі я яму аб гэтым сказала, дык ужо два месяцы не паказаўся. Бацькі нічога не ведаюць, толькі пытаюцца, што ж гэта Ёзік не прыходзіць. А я не ведаю, што казаць.

Дык што цяпер рабіць, ці пайсці да лекара і перарваць цяжарнасць, ці радзіць? Бацькам баюся прызнацца, дык толькі ад цябе чакаю парады.

**Гражына з Бельшчыны**

**Гражына!** Неадкладна скажы бацькам. Раней ці пазней яны аб усім будуць ведаць. Што рабіць, вы мусіце рассудзіць супольна з бацькамі. А найважнейшае, каб з'явіўся твой каханы. Чаго ж ён струсіў. Дзе ж тая вернасць, аб якой табе гаварыў? З ім жа трэба было б вырашыць гэту справу. Вядома, найкарысней было б вам пажаніцца. Але дзе ж каханне? Перарванне ж цяжарнасці пагражае нярэдка няплоднасцю на ўсё жыццё. Калі ўжо вырашыш гэта зрабіць, дык неадкладна ідзі толькі да лекара-спецыяліста. Толькі ён зможа гэта зрабіць, ды не пазней як да трох месяцаў цяжарнасці. Прадумай глыбока ўсё, пакуль вырашыш, як паступіць.

**„Сэрцайка“**




*Погибших товарищей имена*
*Доселе не сходят с губ.*

**Э. Багрыцкі**

**1.**

На быльняговы ўзмежак, няроўны бруствер акопа і адзінокую гармату з затуманенай вечарам высі сыпаў снег. Сцюдзёны сіверны вецер самаўладна гаспадарыў у непрыбраным кукурузным прасцягу, гойдаў, ірваў і матляў змёрзлыя паламаныя сцяблы, поўніў прастор беспрытульным шорхатам першай завеі.

Снег пайшоў надвячоркам, калі на вялізным раўнінным абшары не засталося нічога, апроч пакарэжаных гарэлых танкаў, пабітых коней, старых і свежых варонак і трупаў. Нямецкія танкі, учыніўшы гэты нечаканы разгром, глуха раўлі недзе на ўсходзе, хутка адносячы ў звечарэлую далеч шматгалосае грымоцце бою. Цяпер тое грымоцце ўжо выдыхалася, стралянiна глухла, толькі калі-некалі самы моцны або самы блізкі з выбухаў скаланаў зямлю. Дробныя камякі з бруствера каціліся тады ў акоп і глуха лапацелі там па лубяной плашч-палатцы, пад якой ляжаў камандзір гэтай гарматы сержант Скварышаў. Ён быў забіты раніцай, у час першай атакі танкаў. Як трохі пацішэла, яфрэйтар Кеклідзе зняў з сябе тую палатку і накрыў камандзіра. Праз якую гадзіну стала патрэбна накрыць і самога Кеклідзе, але зрабіць гэта ўжо не было чым і не было калі: усе адбівалі новую атаку, пасля наступную. Так, абсыпаны снегам, яфрэйтар і застаўся да вечара на ўскрайку стаптанай кукурузы, сярод параскіданых гільзаў і парожніх снарадных скрынак.

Яго трэба было б прыбраць, каб ворагі не ганьбілі мёртвага чалавека, але замковы Цімошкін ужо не мог устаць з бруствера і дайсці да забітага. Гэты страшэнны дзень да рэшты адабраў усе яго сілы. Вельмі балела параненая рука, увесь час хацелася пакласці яе лепей, паправіць, знайсці дзе зручнае месца. Апоўдні, калі асколак нямецкае міны сакануў па далоні, хлопец бадай не адчуў вялікага болю; не дужа дакучаў ён і пасля, калі наводчык Шчарбак двума індпакетамі перавязаў рану. У той час нямецкія танкі падышлі да самых прысадаў — за дзвесце метраў ад агнявой пазіцыі, і саракапятчыкі стралялі па іх падкаліберным, пакуль тыя яшчэ былі ў іх. Пасля танкі ўсё ж прарваліся і шыбанулі на фальварак, у тылы палка. Яшчэ праз якую гадзіну пяхота адступіла, а яны засталіся. Пакінуць гармату хлопцы не мелі права, а вывезці яе не было як — абодва іх трафейныя біцюгі ўжо ляжалі ў кукурузе забітыя. Так яны і асталіся тут, двое жывых — Шчарбак і Цімошкін; пазней да іх з кукурузы прыйшоў ездавы Здабудзька. Апусціўшы галаў, ён вінавата стаяў цяпер на агнявой пазіцыі ў сваім кароткім, падпаленым знізу шынялі, туліўся ад ветру і маўчаў. Шчарбак, прысланіўшыся да шчыта гарматы, заклапочана глядзеў у заснежаную далеч, дзе ішоў бой. Гукі бою тым часам слабелі; выбухі цішэлі, ужо трэба было прыслухоўвацца, каб учуць праз вецер кулямётныя чэргі, якія паўгадзіны назад люта лупцавалі прастор. Пяхоты ў немцаў, пэўна, было нямнога, яна імкліва рванулася ля дарогі за танкамі, і цяпер тут, на полі бою, не чутна было нікога. Меўшы якое цягло, яны, пэўна, здолелі б уратаваць гармату і сябе. Але коней у іх не было, і віноўнікам тае бяды яны лічылі Здабудзьку.

— Ось дык лупанулі, сволачы! Кіламетраў на пятнаццаць — не меней, — сказаў Шчарбак, усоўваючы ў кішэні ватных штаноў вялікія скалелыя рукі. — Чортаў Здабудзька! — зазлаваў ён. — Запрэгчы б цяпер самога ды ўрэзаць путай па боку!

Яны лаялі ездавога за пагібель коней, хоць самі разумелі, што невялікая была ў тым віна пажылога салдата Здабудзькі. Ці многа спагоніш з нававбранца, які два тыдні назад прыйшоў у батарэю і толькі яшчэ пачаў асвойвацца на вайне, як здарылася гэтае ліха. Хіба ў такім пекле можна было зберагчы коней, калі гінулі батальёны і роты. Увесь дзень нямецкія танкі з ашалелай упартасцю таранілі іх абарону, гарэлі, узрываліся, канвульсіўна круціліся на перабітых гусеніцах і ўсё ж сунуліся ўглыб, дратуючы і пякельным агнём нішчачы ўсё ў акопах, на агнявых пазіцыях, у траншэях, кукурузе. Да самага цямна хадуном хадзіла ўмерзлая венгерская зямля, стагнала, выла, скуголіла хмарнае паднябессе, потым і крывёю абліваліся жывыя абаронцы. Але сілы іх былі няроўныя, і ворагі дамагліся свайго.

Страшны вайсковы лёс нечакана і бязлітасна абышоўся з імі ў гэты студзеньскі дзень. Зморанасць і нейкае ўнутранае здранцвенне свінцовым цяжарам напоўнілі цела, яно прагла толькі спакою, а думкі марна таўкліся ў галаве ў пошуках выйсця з тае бяды, у якую іх загнала вайна. Трэба было нешта рабіць, недзе шукаць паратунак.

Валюхаста паводзячы тугімі плячыма, Шчарбак падышоў да гарматы. Гэта была маленькая саракапятка, якой не меней, чым людзям, перапала за сённяшні дзень. У яе сталёвым шчыце свяціліся дзве дзіркі ад буйнакаліберных куль, верх яго быў пашчэрблены нечым, пэўна, вялікім асколкам, на колах засталі-

# ДАМОВІЛІСЯ...

Іншоў экзамен па псіхалогіі. Я засунуў канспект за пояс і прычыніў дзверы. Выкладчык выглянуў з-за газеты і лагодна ўсміхнуўся:

— Праходзьце, праходзьце. Не бойцеся.

Я падыйшоў да стала і выцягнуў білет. Выкладчык паказаў, дзе мне сесці, і... схаваўся за газету. Момант быў — лепшага не прыдумаеш. Натрэніраваным рухам я выхапіў канспект і пачаў пераносіць адказ на паперу.

„А казалі — выкладчык люты, — падумаў я. — Што ён, цікава, там вычытвае?“ Я выцягнуў шыю і пачаў чытаць загалоўкі: „Пяты акіян... Шапкі налева... Чалавек з ха...“ Мяне ахапіў жах. Там, дзе мела канчыцца слова „характарам“, была дзірка, скрозь якую на мяне глядзела вока выкладчыка.

„Ну, — думаю, — канец“.

— Папаўся? — пачулася іранічнае.

— Папаўся, — прызнаюся.

— Што думаеце рабіць? — пытае.

— Кінуся ў палонку, — адказваю. — Развітаюся з сябрамі, напішу запіску і...

Выкладчык адлажыў газету.

— Што думаеце пісаць у той запісцы?

— Пра тое, як я бязглузда папаўся.

— Вы што, цалкам сур'ёзна лічыце, што папаліся бязглузда?

— Цалкам, — кажу.

— Дарэмна. Калі хочаце ведаць, я гэтым метадам ужо другі год карыстаюся і ні разу ні ў каго не выклікаў ніякіх падазрэнняў. А вы мне — „бязглузда“!

— Для мяне бязглузда, — спакойна сказаў я.

Выкладчык нервова скрывіўся.

— Давайце разбярэмся.

— А што тут разбірацца: запіска, палонка і — усё...

— Ды пачакайце вы са сваёю палонкаю... Мяне яна менш за ўсё цікавіць. Справа ў тым, малады чалавек, што я пішу дысертацыю на тэму: „Псіхіка і паводзіны людзей у хвіліны найбольшага нервовага напружання“. Улавілі? Вы ж, я ўпэўнены, зоймеце адно з галоўных месц у праведзеных мною спасцярогах. А каб мае эксперыменты не сарваліся, прапаную вам тройку. Дамовіліся?

Крыху падумаўшы, я катэгарычна паківаў галавою.

— Чацвёрка, — запрапанаваў выкладчык.

— Мала, — кіўнуў у адказ я.

— Пяць.

— Таксама мала...

Выкладчык разгубіўся.

— Гм-гм, — вымавіў ён і нейк вымушана ўсміхнуўся. — Чаго ж вы ад мяне яшчэ хочаце?

Я нахіліўся цераз стол і рашуча палажыў сваю гарачую руку на яго пахаладзелую.

— Пяцёрку, — кажу, — зараз і пяцёрку — у наступным семестры.

**Ігар Данілаў**



# НІЎКА



*Саперніцкія кінафірмы.*

### МАЛАДЫЯ

Яна:
— Я лічу, што перад нашым шлюбам ты павінен пабачыцца з маімі бацькамі і пазнаёміцца з імі.

Ён:
— А ты не магла б мне іх проста апісаць?

### КЕМЛІВЫ

На ўроку фізікі настаўнік пытаецца ў вучня:
— Што ты будзеш рабіць, калі электрычны прас перагарыць?
— Занясу ў майстэрню, — адказвае вучань.

### ПОСПЕХ

Пажылая жанчына гаворыць лекару:
— Надзвычайныя поспехі зрабіла медыцына. Калі я была маладой, трэба было раздзявацца, а цяпер дастаткова паказаць язык.

### КІНДЗЮЛІС

Афіцыянт падае ежу і адразу патрабуе грошы.
— Няўжо вы мне не давяраеце? — здзіўляецца наведвальнік.
Тут падыйшоў Кіндзюліс і сказаў:
— Давярае. Але, бачыце, вы заказалі нясвежыя грыбы.

### *ЗАКАХАНЫ СМЯЛЬЧАК*

*Дружбаку аднойчы воін*
*Гаварыў перад адбоем:*
*— Першакурсніцу кахаю,*
*Па адной ёй уздыхаю.*
*Сам я не абы-які:*
*Заслужыў вось тры значкі.*
*Толькі ёй усё няўзнак,*
*Не прызнае аніяк,*
*Што і спрытны я,*
*І смелы,*
*І знаходлівы,*
*І ўмелы...*
*— Пачакай, — сказаў дружбак, —*
*Што кахаеш моцна так,*
*Пра агонь тваіх пачуццяў*
*Давялося хоць пачуць ёй?*
*Ты сказаў пра гэта ёй?..*

*Закаханы мой герой*
*Памаўчаў тут вінавата*
*І прызнаўся:*
*— Страшнавата.*

**Цімох Дзераза**



*— Добра. Але ў наступны раз не забывай запалак.*



**...Ён еў вачамі свайго начальніка. З'еўшы, сеў на яго месца.**

**...Ён гатовы быў многа аддаць, каб атрымаць яшчэ болей.**

### НЕПРАХОДНЫ МОСТ

У час манеўраў салдат вярнуўся з разведкі і дакладвае:
— Выяўлены неразбураны мост.
— Танкі пройдуць?
— Пройдуць.
— Конніца пройдзе?
— Магчыма, пройдзе.
— Ну тады і пяхота пройдзе?
— Пяхота не пройдзе, капітан!
— Як жа так, танкі пройдуць, конніца пройдзе, а пяхота не пройдзе?
— Там прывязаны злы сабака.

### НЕДААЦЭНЬВАЕ

На палігоне ідзе стральба. Камандзір гаворыць салдату:
— Паслухайце, Хвалько, вы самы дрэнны стралок у нашым узводзе!
— Вы мяне недаацэньваеце, грамадзянін паручнік, — ва ўсім палку!

### ТАКСАМА ПРАЦАВІТЫ

Рабочы гаворыць начальніку змены:
— За гэтым новенькім я цэлую змену глядзеў. Нічога не рабіў, толькі валэндаўся па цэху.
— А вы што рабілі цэлую змену?
— Ды за новенькім наглядаў.



*— Не падавай выгляду, што ты яго спужаўся!*

*З франтавога гумару*

### СВІННЯ

Увварваўся фашыст у беларускую вёску, адабраў у жанчыны свінню, засмажыў, паклаў на стол і крычыць:
— Матка, давай водка! Свіння піць хоча.

### ЗНАЎЦА

— Скажыце, палонны Шумель, ці ведаеце вы Генрыха Гейнэ?
— Як жа! Гэта наш нямецкі пісьменнік. Я спаліў нямала яго кніг.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Галіны Кавэцкай, Валі Васілюк, Валі Будкі, Зіны Ролі з Бельска, Валі Максімюк, Евы Смалеўскай, Яўгенія Максімюка і Юркі Рудэчка з Плёсак **ка. З'еўшы, сеў на яго месца.**

### НЕ ДА ГАРЭЛКІ

Мужчына пытае свайго прыяцеля:
— Ты сёння гарэлку піў?
— Не, не піў, — адказаў той.
— А ўчора?
— І ўчора не піў.
— Дык чаму ж у цябе вочы чырвоныя?
— Ды гэта я плакаў: жонка прыйшла п'яная і пабіла мяне.











### ГІГАНТ

Жыхар Варшавы Ежы Глінскі злавіў у Вісле паблізу скерневіцкага канала сома-гіганта. Даўжыня рыбы 188 см, вага 44 кг. Ежы Глінскі змагаўся з сомам звыш гадзіны і перамог яго толькі з дапамогай калег-рыбакоў.



### МУРАШКІ

Амерыканскі лётчык-выпрабавальнік Джымі Колінз вырашыў пакатаць сваю бабулю на спартыўным самалёце, які ён павінен быў пілатаваць. Калі бабуля ўладкавалася ў крэсле, унук запытаў:
— Ну, як ты сябе адчуваеш?
— Выдатна. І ведаеш, чалавечкі сапраўды выглядаюць праз акенца, як мурашкі.
— Але, бабуля, гэта і ёсць мурашкі, бо мы яшчэ не стартавалі.




*Аднаму чалавеку часта хацелася наступіць каму-небудзь на нагу. Але ён гэтага ніколі не рабіў, таму што атрымаў добрае выхаванне.*